# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух »За Свабоду»      Выпуск №5 лістапад-снежань 2014 году



# Свабода слова і армія

**Рух «За Свабоду» звярнуўся да Міністэрства абароны і афіцыйнага выдання армейскага ведамства - «Беларускай ваеннай газеты. Ва славу Радзімы» - з просьбай апублікаваць на яе старонках ніжэй пададзены адкрыты ліст, каб даказаць сваю прыхільнасць свабодзе слова і афіцэрскаму гонару.**




**Адкрыты ліст**

Першае. Мы заклікаем Вас узяць удзел у грамадскіх слуханнях, якія арганізуюцца кампаніяй «Народны рэферэндум».

Адно з пытанняў «Народнага рэферэндуму» непасрэдна тычыцца нацыянальнай бяспекі і гучыць так: «Ці згодныя вы, што для забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных ваенных аб’ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не павінны несці службу за мяжой?».

Гэтая праблема вельмі актуальная і жыццёва важная, улічваючы палітыку уладаў Беларусі,

**працяг на стар. 4**

# Пераможцы «PRO-еўрапейскасці»

**Журы Руху «За Свабоду» на чале са старшынём арганізацыі Аляксандрам Мілінкевічам падвяло вынікі фотаконкурсу «PRO-еўрапейскасць» са слоганам «Знайдзі Еўропу ў Беларусі».**



Нагадаем, на конкурс прымаліся выявы, што ствараюць у беларусаў пазітыўны імідж Еўропы. У асобнай намінацыі канкуравалі здымкі-«еўраселфі».

Пераможцам фотаконкурсу стала Алена Клікунова з фота сваіх дзяцей і знакам геаграфічнага цэнтра Еўропы. Каму цікава, ён месціцца ў Полацку.

Алена атрымала ў якасці прыза экскурсіўную паездку ў Гданьск на дваіх. Як прызналася пераможца, яны з мужам акурат планавалі вандроўку на гадавіну вяселля. Так што, прыз стаў падарункам да гэтай даты.

«Мы з мужам цудоўна правялі час і нават змаглі адзначыць гадавіну вяселля незвычайным чынам - прагулкай пад поўняй уздоўж мора, з Гданьска ў Сопат і шпацырам па начным Гданьску», - распавяла пасля паездкі Алена.

**працяг на стар. 6**

# Дыскусіі аб «адзіным»

**Апазіцыйныя партыі і арганізацыі не здолелі дамовіцца аб працэдуры склікання Кангрэса дэмакратычных сілаў і абранні на ім адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары-2015.**

Рух «За Свабоду», БХД, партыя БНФ, «Гавары праўду» і БСДП (Грамада) падпісалі адмысловае пагадненне. Аднак АГП і левыя са «Справядлівага свету» адмовіліся далучацца.

Дасягненне згоды першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч называе малаверагодным:

«Але мы пакідаем дзверы адчыненымі. Мы чакаем, што калі нашы партнёры з АГП і «Справядлівага сьвету» сфармулююць нейкія дадаткі ці прапановы па зменах той працэдуры, якая ўхваленая «пяцёркай», то мы зможам вярнуцца да гэтага пытання. Аднак перспектывы таго, што нейкая згода будзе дасягнутая, мне ўяўляюцца досыць мінімальнымі».

Кансультацыі будуць працягвацца, бо ў нас ёсць і некаторыя іншыя тэмы — напрыклад, правядзенне кампаніі ў падтрымку Міколы Статкевіча».

Пазіцыя «пяцёркі» – «такая кампанія можа быць эфэктыўнай толькі тады, калі яна будзе праводзіцца супольна. А калі адзін ці другі кандыдат будзе выкарыстоўваць тэму Статкевіча толькі дзеля сваёй кампаніі і толькі на сваю карысць, то ўсё ператворыцца ў прафанацыю».

Рух «За Свабоду» па-ранейшаму лічыць неабходным абранне адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмсіл на выбарах-2015.

«Калі мы не аб’яднаемся, гэта будзе вельмі слабая кампанія, якая выкліча расчараванне ў грамадства. На выбары трэба ісці, каб дадаць аптымізму людзям. Таму аб’яднанне павіннае быць шырокае і шчырае», - кажа старшыня арганізацыі Аляксандр Мілінкевіч.



«На сучасным этапе - ні для каго гэта не сакрэт - стан апазіцыі пакідае жадаць лепшага, і тут няма выключэнняў, - аналізуе сітуацыю першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. - Няма партый альбо арганізацый, якія могуць сказаць, што ў іх справы ідуць лепш, чым у астатніх. 20 гадоў дыктатуры робяць сваю справу, перадусім, гэта адбілася на актывістах арганізацый, якія знаходзяцца пад пастаянным ціскам. Гэта адбілася і на беларускім грамадстве, якое стала на парадак больш апалітычнае, больш няверуючае ў тое, што нейкія перамены ў Беларусі магчымыя, і магчымыя дзякуючы сілам, якія ёсць унутры Беларусі, а не звонку. Людзі прызвычаіліся да дыктатуры, знайшлі для сябе пэўныя нішы, каб існаваць. Але я б не сказаў, што ўсё страчана, і нам застаецца спадзявацца толькі на знешнія чыннікі. Мы ўсё роўна знаходзім пэўныя формы для дзейнасці ў Беларусі».

Цяпер актыўна абмяркоўваецца варыянт вылучэння адзіным кандыдата на выбарах-2010, палітвязня Мікалая Статкевіча.

«Варыянт вылучэння Статкевіча мае шмат адмоўных бакоў. Мы зараз казалі, што грамадства чакае асобу, якая была б выразнікам і прадстаўніком апазіцыйных структураў, і тых людзей, якія выступаюць за перамены. Грамадства чакае адказу на свае праблемы, прапановы, пытанні, і ўцямнага адказу, што рабіць і куды рухацца, - заявіў Юрась Губарэвіч падчас «круглага стала», арганізаванага газетай «Новы час». - У сітуацыі, калі мы вылучаем асобу, якая фізічна не можа ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, мы пазбаўляем сабе магчымасці даваць адказы на гэтыя пытанні. Мы не зможам ад імя кандыдата казаць пра нейкія перамены, у нас не будзе інфармацыйных магчымасцяў, доступу да дзяржаўнага тэлебачання, мы нават не зможам працаваць з людзьмі падчас збору подпісаў, таму што для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы кандыдат асабіста падае дакументы і яе спіс у ЦВК. Статкевіч, зразумела, у ЦВК не з’явіцца, а значыць, ініцыятыўная група не будзе зарэгістраваная».

Больш за тое, кажа адзін з кіраўнікоў Руху, «мы зноў сутыкнемся з праблемай, калі на топавае месца кампаніі выносім пытанне палітвязняў - пытанне, якое хвалюе апазіцыю, а не шырокае кола людзей».

# Пераможцы «PRO-еўрапейскасці» (працяг)

працяг ад стар. 1



У намінацыі «селфі» перамогу атрымала серыя фотаздымкаў з дзецьмі Іллі Дабратвора (прыз – настольная гульня «Разам»)



«Эўрапейскага пупсіка» даслала на конкурс Наталька Мотуз



«Што для меня Еўрапейскасць? - пытаецца Анатоль І адказвае: гэта домік для гномікаў, чамусьці добрых»



Еўропа, мы свае! паведамляе Яўген з Гродна

Пераможцы былі ўзнагарожданыя беларускімі настолькамі («1514», «Паўстанцы», «Разам»)

Еўропа ў Пінску ад Васіля - копія гравюры з выявай Пінска ў 1863 годзе зробленая вулічным мастаком на мосце праз раку Піна






Гэтаму калажу да перамогі не хапіла пары галасоў

# Свабода слова і армія (працяг)

працяг са стар. 1



якая вядзе да поўнай ваенна-палітычнай залежнасці краіны ад Расіі і павелічэння пагрозы негатыўнага стаўлення беларусаў да мілітарысцкай прысутнасці афіцыйнай Масквы на тэрыторыі краіны. Натуральна, вастрыні гэтай тэме дадала геапалітычная сітуацыя апошняга часу ў нашым рэгіёне.

Так, у межах вераснёўскага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў беларусам задавалася пытанне:

«Нядаўна галоўнакамандуючы ВПС Расіі В. Бондараў заявіў, што ў 2015 годзе Расія мае намер размясціць у Беларусі сваю авіябазу з 24 знішчальнікамі СУ-27.

Адны людзі паставіліся да гэтага станоўча, іншыя адмоўна, а трэція абыякава. А як да гэтага ставіцеся Вы?» У 45,1% рэспандэнтаў стаўленне адмоўнае, у 22,4% - станоўчае. Розніца - у два разы!

Падчас слуханняў варта было б абмеркаваць і патрыятычнае выхаванне грамадзян.

Падставай для дыскусіі маглі б стаць вынікі таго ж апытання НІСЭПД, згодна з якім кожны чацвёрты беларус гатовы змагацца са зброяй у руках у выпадку нападу як з боку NATO, так і Расіі. А між тым, прапаганда ў якасці патэнцыйнага ворага малюе выключна Паўночна-Атлантычны альянс. Хоць апошнія падзеі ва Украіне дэманструюць, што пагроза незалежнасці сёння ідзе якраз з усходу.

Рух «За Свабоду» заклікае ваеннае ведамства да канструктыўнага дыялогу, заснаванага на свабодзе слова. Гэтая каштоўнасць з'яўляецца адной са статутных задачаў нашай арганізацыі, а таксама прадэкларавана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Газета Міністэрства абароны «Беларуская ваенная газета. Ва славу Радзімы» сцвярджае, што праблем са свабодай у Беларусі няма.

«Недоумение вызывают уже сами оппозиционные лозунги, призывы и воззвания. Взять хотя бы название движения »За свободу«. Позволительно спросить: о чьей свободе идет речь? О свободе заключенных, что ли? Но не о свободе же белорусского народа, потому что все знают: страна наша стала свободной после завершения крупномасштабной наступательной операции »Багратион« еще в 1944 году», - паведамляецца ў матэрыяле газеты.

Мы прапануем Міністэрству абароны і «Ваеннай газеце» даказаць гэта, размясціўшы на сваіх старонках дадзены ліст і зварот Руху «За Свабоду» да беларускай арміі (прыкладаецца), а таксама заклікаем прыняць удзел у згаданых грамадскіх слуханнях і асвятліць іх.

Мы згодныя і на любы іншы фармат абмеркавання праблем нацыянальнай бяспекі. Напрыклад, падчас дэбатаў на адным з тэлеканалаў нашай, як сцвярджаецца ў Вашай газеце, свабоднай і прававой дзяржавы.

Другое. Мы патрабуем даць нам слова, у тым ліку каб чытачы «Ваеннай газеты» прачыталі аб нашым адказе на адкрыты паклёп выдання пра Рух «За Свабоду».

«Ратующее »за свободу« движение известило обще-





ственность, что в нашей армии якобы »недостаточно развит белорусский патриотизм, мало делается для осознания ценностей независимости и нейтралитета Беларуси«. В дальнейшем движение решило исправить этот »недостаток« путем оказания помощи военному ведомству и отправило комплект плакатов »Палкаводцы і военачальнікі зямлі беларускай« в адрес нескольких органов военного управления, причем безвозмездно», - сказана ў адным з артыкулаў.

Па словах аўтара, «сразу же за бесплатной раздачей плакатов последовали письма в различные инстанции с настойчивыми просьбами (почти требованиями) осуществить закупку вышеназванных плакатов по цене 85 тысяч рублей».

Рух «За Свабоду» прапануе «Ваеннай газеце» і Міністэрству абароны прадэманстраваць нібыта існуючую камерцыйную прапанову ад нашай арганізацыі не ў судзе, таму што яго справядлівасць падобная да свабоды слова ў Беларусі, а на згаданых грамадскіх слуханнях, прысвечаных нацыянальнай бяспекі краіны. Паколькі ў кампетэнтнасці і патрыятызме адказных за яе забеспячэнне асоб значная частка беларускага грамадства небеспадстаўна сумняецца.

# Зварот Руху «За Свабоду» да беларускай арміі

Крывавыя падзеі ва Украіне выклікаюць ў беларусаў непакой і трывогу. Ніхто не хацеў бы, каб на нашай беларускай зямлі ішла братазабойчая вайна або нехта імкнуўся праз сваіх дыверсантаў падзяліць і акупаваць нашу Беларусь.

Беларусы - мірныя людзі, але ў крытычныя моманты трэба быць гатовым выйсці шчыльнымі радамі супраць агрэсара, каб бараніць мір, тэрытарыяльную цэласнасць і незалежнасць нашай краіны.

Агульны і маральна-палітычны стан беларускай арміі выклікае справядлівую занепакоенасць. Сёння ўсім відавочна, што тут недастаткова развіты ўласна беларускі патрыятызм, што мала чаго робіцца, каб пашыраць каштоўнасці незалежнасці і нейтральнасці Беларусі.

Мы лічым патрэбным неадкладна прыняць новую канцэпцыю нацыянальнай бяспекі, скіраваную на ўлічванне новых пагрозаў і рызыкаў для Беларусі і яе дзяржаўнасці. Павінна быць прынятая новая праграма дзеянняў з прыярытэтам у разуменні абароны Айчыны як абароны менавіта незалежнай Беларусі. Належыць прыняць праграму сапраўднай беларусізацыі нашай арміі. Варта пашыраць выкладанне сапраўднай беларускай гісторыі ў вайсковых вучэльнях і частках, трэба выхоўваць беларускіх вайскоўцаў на ўчынках не толькі герояў Вялікай Айчыннай вайны, але і іншых гістарычных постацях кшталту Усяслава Полацкага, вялікіх князёў Альгерда і Вітаўта, Канстанціна Астрожскага, Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага. Дзяржаўная беларуская мова павінна шырэй і рэгулярна выкарыстоўвацца камандным і афіцэрскім складам падчас урачыстых мерапрыемстваў, вучэнняў, штодзённай дзейнасці. Сапраўднае беларускае войска павінна спяваць і маршыраваць пад беларускія песні.

Мы заклікаем армейскае кіраўніцтва скіраваць выхаванне ваеннаслужачых у бок беларускага патрыятызму і гатовыя прапанаваць сваю дапамогу, напрыклад, у выглядзе адпаведных інфармацыйных матэрыялаў і адукацыйных сустрэчаў.

Мы заклікаем моладзь прызыўнога ўзросту і дзейных вайскоўцаў браць прыклад з лепшых сыноў-абаронцаў Бацькаўшчыны, каб вокліч «Служу Рэспубліцы Беларусь!» быў напоўнены глыбокім патрыятычным сэнсам”.



# Прабачэнні ЕС



**Вельмі непрыемна ўразіў каментар старшыні АГП Анатоля Лябедзькі па выніках сустрэчы лідараў апазіцыі з пасламі краінаў Еўрасаюзу, якая адбылася 28 кастрычніка ў Мінску, напісаў старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч у блогу на Naviny.by:**

“На мове дыпламатыі — гэта хамства. Разам з тым — і хваравітая, малаадэкватная праява беларускага апазіцыяцэнтрызму. У тым ліку праз гэта мы маргіналізуемся і маем паразы, На згаданай сустрэчы прысутнічалі, акрамя мяне і Лябедзькі, Уладзімір Някляеў, Сяргей Калякін і Павел Севярынец.

У інтэрв’ю БелаПАН Лябедзька адзначыў, сустрэчы ў такім фармаце не праводзіліся аж з 2010 года. Хаця наракаць на дэфіцыт кантактаў з замежнымі дыпламатамі, прынамсі, некарэктна.

«Напэўна, гэта звязана з тым, што Лукашэнка спрабуе ўплываць на кадравую палітыку ЕС. Чатыры гады таму быў вельмі моцны падбор дыпламатаў, якія з’яўляліся не прадстаўніцтвамі нейкіх партоў ці эканамічных колаў, а дыпламатамі ў поўным сэнсе гэтага слова. Цяпер гэтага, на мой суб’ектыўны погляд, няма», — заявіў Анатоль Лябедзька. Гэта сапраўды асабісты погляд Анатоля Лябедзькі. У дадзеным выпадку ён зрабіў такую агаворку. Але ж бываюць сустрэчы, калі апазіцыйныя палітыкі ўспрымаюцца як прадстаўнікі ўсіх дэмсілаў. Да ўсяго Лябедзька прэтэндуе на статус адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах-2015.

Шчыра прызнаюся, мне сорамна за гэтае выказванне лідара АГП, і я прыношу прабачэнні прысутным на гэтай сустрэчы еўрапейскім амбасадарам. Паслы краінаў ЕС працуюць у Беларусі не для абслугоўвання апазіцыі, а адстойваюць найперш інтарэсы сваіх краінаў. Груба кажучы, не трэба і шкодна чакаць, што яны будуць «рабіць нам прыгожа» — замест нас саміх.

Ці не таму мы такія слабыя, што шмат гадоў спадзяёмся на знешняе спрыянне? І санкцыі нам падавай вось такія і такія, і дыпламатаў прызначай на наш густ, і падтрымку давай у гэткіх і гэткіх аб’ёмах. Вось тады мы — ух! — зрынем дыктатуру…

Падобныя выказванні, якія дазволіў сабе ці то з адчайнае эмоцыі, ці то з пазіцыі правакацыйнага маралізатарства Анатоль Лябедзька, на жаль, дыскрэдытуюць беларускую дэмакратычную супольнасць. Гэта пры тым што кіраўнікі дыпмісій ЕС ніколі не адмаўляліся ад абароны правоў і свабодаў чалавека ў Беларусі. Дый урэшце рэшт: не яны павінны вызваляць з турмаў тых самых палітвязняў, а беларускі народ».

# Візавыя палёгкі

**Консульскі аддзел пасольства Польшчы ў Беларусі паведаміў, што з 1 снежня «дапускаецца прыём і разгляд консульскімі ўстановамі Рэспублікі Польшча на Беларусі візавых анкет грамадзян РБ без абмежаванняў, звязаных з падзелам тэрыторыі гэтай краіны на консульскія акругі».**

Прасцей кажучы, неўзабаве жыхары Гродзенскай вобласці змогуць атрымаць шэнгенскую візу ў Мінску, а жыхары беларускай сталіцы – напрыклад, у консульствах у Брэсце ці Гродне.

«Польшча - лідар як па колькасці выдадзеных візаў для грамадзянаў Беларусі, так і па спрашчэнні візавых працэдураў і тэрмінаў», - пракаментаваў гэтую інфармацыю для



Рух.by намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец.

«Вельмі станоўчым ёсць і нядаўняе рашэнне аб пашырэнні выдачы двухгадовых візаў. Стараецца не адставаць ад Польшчы і Літва. Хацелася б, каб да гэтых суседак Беларусі далучаліся іншыя краіны Шэнгенскай прасторы, каб Аб’яднаная Еўропа станавілася ўсё больш блізкай і зразумелай для беларусаў», - адзначыў Лагвінец.

# Бліжэй да Еўропы - далей ад агрэсара

**Выступаючы нядаўна на саміце Еўрапейскай народнай партыі і на семінары Rose-Roth Парламенцкай асамблеі NATO старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч паразважаў пра сітуацыю ў нашым рэгіёне.**

«Лукашэнка спрабуе заняць нейтральную пазіцыю адносна вайны ва Украіне, нягледзячы на крытычную залежнасць ад Расіі. Гэта добры шанец, каб пашырыць адносіны Еўразвяз - Беларусь. Дыялог павінен быць крытычны і абумоўлены. Але не ізаляцыя краіны», - адзначыў Аляксандр Мілінкевіч.

Чым бліжэй да Еуропы, тым далей ад агрэсара-Расіі, якая любымі спосабамі спрабуе рэалізаваць ідэю-фікс крамлёўскай эліты - аднаўлення імперыю, дадаў старшыня Руху «За Свабоду».

На ягонае меркаванне, «Масква вядзе мілітарысцкую, гебельсаўскую прапаганду татальнай ілжы».

Як расейска-украінская вайна адбілася на сітуацыі ў Беларусі?

«Грамадства стала менш дэмакратычным. Рэзка спалі праеўрапейскія настроі, але і прарасейскія таксама. Большасць беларусаў хочуць жыць па-швейцарску, у нейтральнай краіне, сябраваць з усімі, але быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Гэта складана рэалізаваць, бо мы жывем не ў Альпах, а на мяжы цівілізацый, што супрацьстаяць адна адной», - сказаў лідар Руху.

«Людзі хочуць стабільнасці і міру, зменшылася колькасць прыхільнікаў рэформ, сацыяльная мадэль Лукашэнкі зрабілася больш папулярнай. Велізарны ўплыў мела шавіністычная прапаганда расейскіх тэлеканалаў. Большасць нашых грамадзянаў паверылі ім, а не беларускім дзяржаўным і незалежным медыя», - робіць высновy палітык.

Нягледзячы на антызаходнюю прапаганду ўладаў перад падзеямі ва Украіне палова беларусаў была за ўступленне краіны ў Еўрасаюз, адзначыў Мілінкевіч.

«Падпісанне Дамовы аб утварэнні Еўразійскага саюза для ягоных сябраў ёсць кансервацыяй цывілізацыйнага адставання і аўтарытарызму. Гэта яднанне не на грунце каштоўнасцяў, а часовых інтэрэсаў. Наша краіна не зможа рэфармавацца і развівацца без заходніх тэхналогій і інвестыцый. Кітай і Расія не заменяць ЕС і ЗША», - заявіў Аляксандр Мілінкевіч.

> **Беларусі неабходна рэалізоўваць праекты умацавання самаідэнтыфікацыі і гістарычнай свядомасці**

Мы мусім працаваць стратэгічна, сказаў ён: «Захаду перш за ўсё трэба сканцэнтравацца на ўмацаванні незалежнасці Беларусі і іншых краінаў - удзельніц Праграмы Усходняга Партнёрства, што таксама павінна спрыяць хутчэйшаму выздараўленню Расіі ад постімперскага сіндрому. Важным накірункам нашай супольнай дзейнасці павінна стаць еўрапеізацыя Беларусі - шырокае інфармаванне аб ЕС, плюсах і мінусах еўраінтэграцыі, еўрапейскія праграмы абменаў, стажыровак, маладзёвых сустрэчаў, падтрымкі малога і сярэдняга бізнэсу. Крытычны і абумоўлены дыялог ЕС з нашай краінай павінен ўключаць працу з рэгіянальнымі і лакальнымі ўладнымі элітамі. У Беларусі неабходна рэалізоўваць праекты умацавання самаідэнтыфікацыі і гістарычнай свядомасці, адраджэння беларускай мовы і культуры, трэба значна спрасціць візавыя працэдуры».

«Важна захаваць смак Еўропы для беларусаў і працаваць на паступовае вяртанне краіны ў еўрапейскую сям'ю», - падсумаваў Мілінкевіч.

«Крамлёўская вайна за былыя савецкія рэспублікі пачалася не пасля Майдана, а шэсць гадоў таму, калі Масква напала на Грузію і анэксавала Паўднёвую Асетыю і Абхазію. Захад не знайшоў у сябе сілаў рашуча супрацьстаяць агрэсіі. Грузія, Украіна ... хто наступны?» - запытаўся старшыня Руху «За Свабоду». Ён дадаў, што тут быў тэст для Пуціна, які зразумеў, што Захад разгубіўся ад нахабства: Украіна пачыналася тады.

«Гаспадар Крамля разумее толькі сілу. Дыпламатыю, кампраміс ён успрымае як слабасць. Захад не мае права аслабляць санкцыі, пакуль Расія не выведзе свае войскі з Украіны», - падкрэсліў Мілінкевіч.

Ён чакае, што Еўразвяз і ЗША будуць быць кансалідаванымі, цвёрдымі, паслядоўнымі.

# Суткі за зварот да ўладаў

**Збор подпісаў за «Народны рэферэндум» праходзіць з большага без эксцэсаў. Аднак здараюцца выпадкі, калі зборшчыкі цярпяць – у асноўным праз занадта пільных апалагетаў рэжыму.**

Гэта адбылося з актывістам Руху «За Свабоду» Уладзіславам Кашалёвым, які быў пакараным трыма суткамі адміністрытыўнага арышту.

Гісторыя з перашкодамі актывісту Руху «За Свабоду» Уладзіславу Кашалёву ў зборы подпісаў за «Народны рэферэндум» з боку ідэолагіхі, а затым затрыманне міліцыяй і суд над ім паказала: у Беларусі грамадзянін не мае вольнага права не тое, што на пратэст, а нават на зварот да ўладаў.

Напачатку аргумент, што зборшчык подпісаў кіруецца законам «Аб зваротах грамадзян», не падзейнічаў на намесніцу дырэктара па вучэбна-выхаваўчай працы каледжа РІПА і старшыню Партызанскай раённай арганізацыі «Белай Русі» Зінаіду Казлоўскую.

Крамола – і ўсё тут! Рве на шматкі аркушы з подпісамі, сабранымі ў інтэрнаце. Нацкоўвае міліцыю.

Па ўсім, ідэолагі атрымалі зверху нейкі інструктаж наконт «Народнага рэферэндуму». Пра кампанію Казлоўская ведала і паўтарала ўстаноўку, што для склікання рэферэндуму грамадзянамі патрэбна адпаведная працэдура з рэгістрацыяй ініцыятыўнай групы і так далей. Так, слушна. Але ідэолагі дрэнна ведаюць Канстытуцыю: грамадзяне маюць права звярнуцца да парламента з просьбай, каб ён прызначыў рэферэндум. Подпісы да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў якраз і збіраюцца паводле закона «Аб зваротах грамадзян». 50 тысяч ужо перададзены туды.

«Мае б дзеці гэтым бы не сталі займацца! І вы б сваіх не адправілі б!» – сказала яна ў судзе, гутарачы з першым намеснікам старшыні Руху Юрасём Губарэвічам. «Між тым я якраз выхоўваю сваіх дзяцей так, каб яны мелі актыўную грамадзянскую пазіцыю», - кажа ён.



Нібыта і Зінаіда Казлоўская – грамадская актывістка. Чытаем вось у газеце Мінгарвыканкаму «Мінскі кур'ер»: «С первого класса сельской школы в Сморгонском районе начиналась ее общественная карьера: от участия в сантройке в младших классах до комитета комсомола на заводе »Транзистор«, от вожака школьного комсомола до такой же организации ПО »Интеграл«, общественные нагрузки в училище электроники, БМРТИ».

Але выпадак з Кашалёвым дэманструе, што актывізм ідэолагіхі – камісарскі: стаяць на варце стабільнасці рэжыму і ўладалюбна пільнаваць замахі на яе.

І, па сутнасці, удзельніца ажно трох Усебеларускіх народных сходаў, разарваўшы падпісныя аркушы, разарвала зваротную сувязь уладаў і грамадзян.

Інерцыйна паводзяцца і іншыя вінцікі сістэмы - міліцыянты. Калі ўжо забралі каго – значыць, трэба нешта «прышыць». Такі панятак, і ён вышэй за закон. У выніку справа – у судзе.

«У міліцыі спрацаваў »хапальны рэфлекс«. Шараговыя міліцыянты нам увогуле сказалі, што ў іх ёсць устаноўка затрымліваць усіх, хто займаецца не толькі зборам подпісаў, але і распаўсюдам улётак», - зазначае Юрась Губарэвіч. Па яго ных словах, у міліцыі цудоўна ведаюць пра «Народны рэферэндум».

«Артыкул прыцягнуты за вушы. Я як прыклад прывёў збор подпісаў жыхароў для вырашэння праблемаў ЖКГ, абсалютна аналагічны выпадак. І нічога адказаць мне не здолелі. Я лічу, што улада забараняе жыхарам звяртацца да яе ў межах заканадаўства, адмяжоўваецца ад грамадзянаў жалезнай сцяной», - заключыў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду».

Суддзя ж, абапіраючыся на паказанні сведкі Зінаіды Казлоўскай, знайшла ў дзеяннях зборшчыка подпісаў прыкметы правядзення схода жыхароў інтэрната на адным з паверхаў. Чаго на самой справе не было ні ў рэальнасці, ні ў пратаколе. Вырак – трое сутак адміністратыўнага арышту.

Пасля выхаду на волю Уладзіслаў Кашалёў запэўніў, што працягне збіраць подпісы ў падтрымку «Народнага рэфеэндуму»

«Ідэолаг Казлоўская можа спаць спакойна з пачуццём выкананага абавязку», - жартуе Юрась Губарэвіч.

# «Народны рэферэндум»: бяспека і здароўе

**У лістападзе кампанія «Народны рэферэндум», ініцыяваная Рухам «За Свабоду» разам з шэрагам іншых партый і арганізацый, пачала шэраг мерапрыемстваў з чарговага цыклу грамадскіх слуханняў**

Яны прысвечаны пытанням нацыянальнай бяспекі – паводле чацвертага пытання з парадку дня прапанаванага плебісцыта. Пытанне гучыць так: «Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?»

Выступаюць лідары кампаніі «Народны рэферэндум», а таксама ваенныя эксперты Аляксандр Алесін і Леанід Спаткай.

Нагадаем, у жніўні, верасні і кастрычніку ў больш як дзясятку гарадоў прайшлі слуханні, прысвечаныя даступнасці і якасці медыцыны, а атксама адукацыі ў Беларусі.

По іх выніках былі складзеныя рэкамендацыі па магчымых рэформах у гэтых галінах – іх перадалі ў адпаведныя профільныя дзяржаўныя ведамствы. На жаль, прадстаўнікі ўладаў у грамадскіх дыскусіях браць удзел не захацелі.

## Чыноўнікаў – у паліклінікі!

Так, актывісты кампаніі «Народны рэферэндум» звярталіся да дэпутата Дзмітрыя Шаўцова з прапановай правесці публічныя дэбаты на тэму магчымага ўвядзення ў краіне сістэмы аплаты наведвання дзяржаўных паліклінік. Справа ў тым, што ён сябра камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы, у мінулым галоўны ўрач сталічнай паліклінікі №34, а нядаўна выказаўся за платнае наведванне дзяржаўных паліклінік.

«Я лічу, што ў сёняшніх умовах рабіць платнае наведванне паліклінік недапушчальна, таму што ў першую чаргу трэба агулам непакоіцца пра стан сістэмы аховы здароўя ў краіне, якая, на маю думку, не адпавядае ніякім стандартам», - сказаў Юрась Губарэвіч радыё «Рацыя».

> **«Усё больш беларусаў разумеюць, што наяўнасць чужых вайсковых баз — гэта патэнцыяльная пагроза для краіны, якую могуць уцягнуць у ваенны канфлікт**

Па ягоных словах, ён «неаднойчы сутыкаўся з сітуацыямі, калі якасць медычнага абслугоўвання ў адносінах да людзей, якіх добра ведаю, мякка будзе сказана, пакідала жадаць лепшага».

«З-за несвоечасова выяўленых праблемаў чалавек затым нават меў праблемы са здароўем. Вось на гэта трэба ў першую чаргу скіраваць грошы. Калі якасць нашай медыцыны будзе на ўзроўні, тады ўжо можна казаць і пра нейкія формы аплаты з боку грамадства», - падкрэсліў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду».

Гэта можа быць, па ягоным меркаванні, «і страхавая медыцына ў выпадку, калі працадаўца бярэ на сябе аплату страхавых полісаў сваіх супрацоўнікаў, а дзяржава дапамагае сацыяльна неабароненым колам насельніцтва».

«Але сёння забіраць у народа грошы за нізкі ўзровень асблугоўвання – гэта проста нейкі здзек з боку дзяржавы. Няхай бы гэты дэпутат паразмаўляў са сваімі выбарцамі і пачуў бы тое, што яны думаюць на гэты конт. Магчыма, пасля гэтага ён і змяніў бы сваё стаўленне да праблемы. Дзіўна, што дзяржава не клапоціцца пра сістэму ахову здароўя. Заўсёды ж можна знайсці грошы не на чарговыя пражэкты кшталту лядовых палацаў альбо пабудовы новых урадавых рэзідэнцый, а ўкласці гэтыя рэсурсы ў тыя ж паліклінікі ці заробкі медыцынскіх работнікаў»

Чыноўнікі заяўляюць, што дзясяткі лядовых палацаў якраз і пабудавалі для таго, каб нацыя была здаровай, але спорт (асабліва – прафесійны) – гэта выбар адзінак, а сістэма аховы здароўя закранае ўсё беларускае грамадства, кажа Губарэвіч. «Вось – прыярытэт! Няхай чыноўнікі наведаюць хакейныя матчы і не лячэбную камісію, а сходзяць у звычайныя паліклінікі. Б'юся аб заклад, што там народу збіраецца ў разы больш, чым на »Мінск-Арэне".

У высновах кампаніі «Народны рэферэндум» канстатуецца, што беларуская ахова здароўя не можа задаволіць у поўным аб'ёме запатрабаванняў на-

# «Народны рэферэндум»: бяспека і здароўе

## працяг

сельніцтва ў якасным і эфектыўным лячэнні з прычыны неэфектыўнасці кіравання галіной і недастатковага яе фінансавння:

Асабліва дрэнна гэта адбіваецца на першаснай медыка-санітарнай дапамозе. Тут на першыя месцы выходзяць праблемы недастатковай укамплектаванасці медычнымі кадрамі, нерацыянальнага іх выкарыстання, дрэннай арганізацыі працы медыцынскіх установаў, адсутнасці матывацыі медыцынскіх працаўнікоў у якасным паляпшэнні дыягнастычнага і лячэбнага працэсу ў сувязі з нізкай аплатай працы, адсутнасці новых тэхналогій і пераходу на электронныя формы вядзення дакументацыі.

Празмерная сацыяльная функцыя ўстаноў аховы здароўя, што навязваецца ім сёння, таксама перашкаджае эфектыўнасці беларускай аховы здароўя. У Беларусі найвышэйшыя паказчыкі ў свеце як па ўзроўні шпіталізацыі насельніцтва, так і па колькасці дзён, якія хворыя праводзяць на лячэнні ў стацыянарах.

Увядзенне платных медыцынскіх паслуг у такім выглядзе, як яны існуюць сёння, прывяло да парушэння норм Канстытуцыі і закона «Аб ахове здароўя». Узаемаадносіны «лекар-пацыент» сёння не могуць задаволіць ні медыкаў, ні пацыентаў. Апошнія гады назіраецца сталае паніжэнне аўтарытэту лекара.

У гэтым вінаватая дзяржава, якая ўстанавіла вельмі нізкі ўзровень аплаты працы медыкаў пры завышаных патрабаваннях з іх, калі да доктара хворыя ставяцца як да абслуговага персанала. У Беларусі няма выразнай юрыдычнай базы ўзаемаадносін «лекар-пацыент» на выпадак канфліктных сітуацый, няма ўпоўнай меры страхавання прафесійнай адказнасці медыкаў.

Грунтам рэформы медыцыны магла б стаць дэцэнтралізацыя кіравання медыцынскай галіной і павялічэнне фінансавання аховы здароўя да 6-8% ВУП, змена падыходаў што да функцыянавання сістэмы першаснай медыцынскай дапамогі".

**Прапановы кампаніі «Народны рэферэндум» такія:**

1. Правесці дэцэнтралізацыю кіравання медыцынскай галіной;
2. Павялічыць фінансаванне аховы здароўя да 6- 8% ВУП;
3. Зладзіць рэформу першаснай медыцынскай дапамогі: раздзяленне на два ўзроўні;
4. Вызваліць сістэму першаснай медыцынскай дапамогі ад сацыяльных функцый;
5. Укараніць выразныя стандарты па бясплатных відах медыцынскай дапамогі на кожным узроўні яе аказання;
6. Спрасціць працу з дакументацыяй, выключыўшы непатрэбныя і неабавязковыя формы справаздачнасці;
7. У першасным звяне медыцынскай дапамогі ўкараніць сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі;
8. Увесці абавязковае страхаванне прафесійнай адказнасці медыкаў;
9. Правесці рэфармаванне сістэмы навучання медыцынскіх кадраў;
10. Адмяніць платныя паслугі-пабора;
11. Увесці абавязковае медыцынскае дзяржаўнае страхаванне;
12. Спрасціць працэдуру атрымання ліцэнзій і стварыць сетку камерцыйных медыцынскіх установаў па аказанні першаснай медыцынскай дапамогі.

### Чужыя базы – патэнцыйная пагроза

З'явяцца падобныя прапановы-рэкамендацыі і датычна ўдасканалення сістэмы нацыянальнай бяспекі.

Тэма замежных ваенных базаў актуалізавалася ў сувязі з вайной Расіі супраць Украіны.

Між тым, у Беларусі ў 2016 годзе будзе створана яшчэ адна расійская авіябаза, на якой будуць стаяць знішчальнікі Су-27. Пра гэта паведаміў галоўнакамандуючы Ваенна-паветраных сіл Расіі Віктар Бондараў. Беларускія афіцыйныя асобы нават не лічаць неабходным інфармаваць грамадскасць пра падобныя намеры.

Як высветлілася, ваенны аэрадром у Бабруйску будзе рэканструяваны, расійскія спецыялісты падрыхтавалі ўжо тэхнічнае заданне на правядзенне гэтых работ, растлумачыў Віктар Бондараў.

Яшчэ некалькі знішчальнікаў Су-27, як расказаў усё той жа Віктар Бондараў, размесцяць у Баранавічах, дзе ўжо створана расійская авіябаза. Толькі ці патрэбны нам гэтыя расійскія аты-баты, тым больш што адносіны ўсходняй суседкі з многімі краінамі свету абвастраюцца? Зараз усе, нават партнёры па СНД, наадварот, стараюцца пазбавіцца ад расійскіх вайскоўцаў.



Як беларусы ставяцца да прысутнасці ў краіне расійскіх баз? Падчас збору подпісаў у актывістаў «Народнага рэферэндуму» была магчымасць пачуць ад простых беларусаў іх меркаванні з гэтай нагоды.

«Па гэтай праблеме адчуваецца дынаміка, — распавёў першы намеснік старшыні Руху »За Свабоду« Юрась Губарэвіч у інтэрв'ю »Народнай волі«. — Мы пачалі збор подпісаў яшчэ вясной гэтага года, напярэдадні выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы. І тады большасць людзей наогул не лічыла, што пытанне прысутнасці расійскіх авіябаз у Беларусі вельмі актуальнае для краіны, хоць шмат было і тых, хто прытрымліваўся нейтральнай пазіцыі. Але ў апошнія месяцы мы заўважылі змену настрояў. Усё больш беларусаў разумеюць, што наяўнасць чужых вайсковых баз — гэта патэнцыяльная пагроза для краіны, якую могуць уцягнуць у ваенны канфлікт. Гэтыя назіранні, дарэчы, былі пацверджаны і вынікамі некаторых сацыялагічных апытанняў. Яны паказваюць, што расце колькасць людзей, якія выступаюць супраць прысутнасці расійскіх вайскоўцаў на тэрыторыі Беларусі».

А ці шмат было тых, хто выступае за расійскія авіябазы?

Губарэвіч шчыра кажа, што дастаткова: «Яны выступаюць не толькі за авіябазы, а наогул за шчыльную інтэграцыю з Расіяй і лічаць, што тут ніякай пагрозы для нас няма. Гэта людзі сталага ўзросту, ваенныя, якія для сябе даўно ўсё вырашылі. Альбо ім у гэтым дапамаглі расійскія тэлеканалы. А вось моладзь, на жаль, расчаравала. Шмат маладых людзей жывуць у сваім свеце лакальных праблем і абсалютна не цікавяцца грамадскімі праблемамі краіны».

Ваенны аглядальнік Аляксандр Алесін падчас слуханняў адзначыў, што казаць пра нейтральны статус Беларусі, хаця ён і замацаваны ў Канстытуцыі, у рэчаіснасці не даводзіцца. Такое ўжо маем геаграфічнае і геапалітычнае становішча паміж Захадам і Усходам. Невыпадкова праз нашу тэрыторыю рэгулярна пракатваліся разбуральныя войны.

За савецкім часам Беларусь была на першым месцы сярод саюзных рэспублік па шчыльнасці размешчаных узбраенняў, бо была фарпастом. Лічачыся перамніцай СССР, Расія не збіраецца адмаўляцца ад такога важнага стратэгічнага плацдарму. Адно замест вайсковага кантынгенту Расія атрымала магчымасць узяць у шматгадовую арэнду ваенныя аб'екты. Напрыклад, вузел сувязі Ваенна-марскога флоту ў Вілейцы, які забяспечвае кантакт з атамнымі падводнымі лодкамі, якія нясуць баявое дзяжурства Атлантычным, Ціхім і Індыйскім акіянах, займаецца радыётэхнічнай выведкай і радыёэлектроннай барацьбой. А ёсць яшчэ радыёлакацыйная станцыя папярэджання пад Баранавічамі, здольная «засякаць» ракеты і касмічныя аб'екты на адлегласці 4800 кіламетраў. У дармавое карыстанне Расіі базы аддадзеныя да 2020 году.

Што да з'яўлення авіябазы пад Бабруйскам з 24 самалётамі, то гэта, па словах эксперта, ёсць сігналам Польшчы і краінам Балтыі, паколькі для абароны яны залішнія.

Размяшчэнне падобных ваенных аб'ектаў у выпадку супрацьстаяння Расіі і НАТО можа паставіць нашу краіну пад удар – у тым ліку ядзерны. Дамагчыся рэальнага нейтральнга статусу складана. У тым ліку праз апатыю грамадства да гэтага пытання. Апрача таго, ваенныя пагадненні з Расіяй заключаныя як «пакетныя» – яны звязаныя з рознымі льготамі па пастаўках энерганосьбітаў, бязмытавым гандлем, выдаткоўваннем крэдытаў.

Удзельнікі слуханняў сышліся на тым, што патрэбная палітыка эканамічнай мадэрнізацыі, каб зменшыць залежнасць беларускай эканомікі ад Масквы, і патрыятычнае выхаванне нашых грамадзян.










Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 01.12.2014 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by